

# КАМСАМОЛЬСКІ ВЕЧАР

Дадатак да газэты „Малады Араты“.

№ 81 (2).

## Падсобны матар'ял да дню ўраджаю.

Гэты № зборніка „Комсамольскі вечар“ магчыма скарыстаць, як падсобны матар'ял да дню ўраджаю, але адначасова па яго матар'ялам можна наладзіць наогул вечар ахвяраваны ажыццяўленьню нашых лёзунгаў:

**— Земляапрацоўка па новаму—шматпольле.**

# Плодазьмен—Шматпольле.

**Каля жывой касьці мяса мусіць абрасьці.**

*Нар. Прыказка.*

Ня раз ужо „Малады Араты“ на старонках сваёй газеты тлумачыў вам, хлопцы, аб тэй карысьці, якую прыносіць новы мэтад (спосаб) земля-карыстаньня.

У гэтым, артыкуле ізноў будзем гаварыць аб той сыстэме, якая пабольш і незаменна павінна ўжывацца ў сучаснай вёсцы.

Вясковая комсамольская моладзь узяла на сябе абавязак змагацца з цераз-палосіцай ды трох-полкай (папар). «Малады Араты» дапамагае комсамольцам у гэтым. Гэты вось артыкул хлопцы будзе таксама дапамога да пашырэньня ўжываньня плодазьмену.

## Сучасная гаспадарка.

Вы ведаеце, хлопцы, што Беларусь старонка пераважна сельска-гаспадарчая—каля 70% (процантаў) жыхарства займаецца с. г. дзесяціна даець незначны ураджай—на 1 чалавека выраблялася хлеба:

1) Меншчына $9^1/_2$ пудоў.

2) Гомельшчына 9 пудоў.

3) Вітабшчына 7 пудоў.

4) Смаленшчына $9^1/_2$ пудоў. У агуле на 1 чалавека ў год выпадае каля 9-цёх пудоў хлеба.

Гэтага ліку мала, каб пракаратаць год.

Віна гэтаму 3-х польная сыстэма апрацоўкі зямлі. Можна павялічыць ураджайнасьць; можна зрабіць так, каб ня толькі хапала хлеба на год, а нават будзе заставацца зьлішак. А пры старой сыстэме гэтага недасягнеш. Сарамна будзе калі наша сельска-гаспадарчая старонка будзе ўвесь час таптацца на трохпольным спосабе. Пара і даўно ўжо пара прайсьці к шмат-польлю.

## З гісторыі зямля-карыстаньня.

У мынулыя часы, быу зусім прымітыўны—(просты) спосаб земляапрацоўкі; абшары былі вялікія, а людзей мала. У нас, напрыклад, ужывалі дзервановую і інш. сыстэмы (дзервановая, калі на некалькі год зямлю астаўляюць парасьці дзірваном). Калі-ж павялічыўся лік жыхарства перайшлі к 3-х польнай сыстэме.

Як бачыця з вышэй даных лічбаў гэтакі спосаб рэдка калі можа апраўдаць затрачанае працы.

Добрым прыкладам зьяўляюцца калектыўныя—комунальныя гаспадаркі. Якія ўжываюць шматпольнаю сыстэму.

Гэтыя комунальныя гаспадаркі за працяг войнаў былі зусім зруйнованы і калі людзі прыступалі да працы амаль нічога нямелі.

Што мы бачым цяпер? Есьць у іх запасы хлеба, ёсьць жывёліна і г. д.

І гэта толькі таму, што яны адмовіліся ад тэй сыстэмы якая няможа поўнасьцю забяспечыць працы.

## Што такое плодазьмен.

Плодазьмен—гэта калі землю пасеўнаю дзеляць на 4, 5, 6, 7, 8, і болей частак і кожны год засяваюць, што небудзь новае.

Яго перавага ад 3-х польнай сыстэмы такая:

1. Няма пустуючых кавалкаў,

2. Ня кожная расьліна вымагае ад глебы аднолькавага ліку патрэбных для жыцьця мінэральных багацьцяў.

3. Расьліны розьняцца лікам ужываньня вады.

4. Адны расьліны заценяючы заглушаюць шкодныя травы, другія нямогуць.

5. Карэньні адных расьлін выбіраюць мінэральныя багацьці з верхніх адкладаў глебы, другія ж забіраюцца глыбей.

### Недахопы трох-полкі.

1) Трэць поля пустуе пэд папарам.

2) Няма палявога травасеяньня, а гэта не дазваляе трымаць шмат жывёліны.

3) вузкія лісты хлебных расьл;наў ня могуць змагацца з шкоднымі травамі.

4) Кароткія карэньні хлебных расьлін астаўляюць у ніжніх слаёх мінэральныя багацьці, і зьнішчаюць верхні слой. Вось па гэтым прычынам ужо можна зразумець карысьць пасевавароту-пладзьмену.

## Прыклады севавароту.

### 1. Чатырохпольны.

(Зямля пахатная дзеліцца на 4 часткі).

| | |
|---|---|
| Пар. | Азім. |
| Прапашныя. | Яравая. |

## 2. Пяцёхпольны.

| | | |
|---|---|---|
| Пар. | Азім з пасевам канюшыны. | Канюшына I-га году. |
| | Канюшына II году. | Яравыя. |

3) Шасьцёхпольны—азім у 2-х мясцох, рэшта так як ў 5-цёхпольнай.

## 8-мёхпольны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Пар. | Прапашныя. | Канюшына I-га году. | Жыта азімае. |
| Азім. | Яр + канюшына. | Канюшына II-га году. | Яравыя. |

## 9-цёхпольны.

| | | |
|---|---|---|
| П а р. | Яр + канюшына з цімафеяўкай. | Пасьбішча альбо укос цімафеяўкі. |
| А з і м. | Канюш. I году. | Л ё н. |
| Прапашаныя. | Канюш. II году. | Яравыя. |

Вось як засяваецца зямля пры шматпольнай сыстэмэ і з кожным годам мяняецца, напрыклад:

Ячмень—пасьля прапашных *)

*) Прапашныя—пасевы бульбы і карняплодаў.

Авёс—пасьля азімых хлябоў і прапашных, можа закрываць і адкрываць пасевазварот, часьцей дык—апошняе месца ў пасевазвароце, на пляцох з пад лесу і лугох.

Грэчка можа адкрываць і закрываць севазварот, часьцей апошняе месца ў севазвароце.

Гарох 2-ое месца пасьля штучных угнаеньняў пасьля азімага перад яравымі.

Буракі кармовыя, пасьля угноянай азімы.

Морква, бручка, рэпа, турнэпс—так сама як і буракі.

Люпін усюды, часьцей у пары.

Бульба—пасьля ўгноянай азімы, альбо шматгадовых траў.

Лён—на нова, луговіна, пасьля азім, прапашных.

За лёнам—авёс альбо пар. Канопля—засяецца ў полі не часта—пасьля расьліны.

Такім чынам засяючы розныя расьліны на чарзе мяняючы іх месца гаспадар гэтым дапамагае угнаеньню і змагаецца з шкоднымі травамі.

На такіх палёх дзесяціна даець бульбы ад 600 да 1000 пудоў (пасьля бульбы азімых сеяць ня можна, бо глеба сухая, і бульба позна выкапаваецца).

З аднагодных кармовых траў, якія адначасна як харч жывёліне і як угнаеньне—1 дзесяціна даець:

**Сэрадэлы**—180-300 пуд. сена, зярна—12-30 пуд. сэрадэлу добра засеваць з белай канюшынай,

**Бялюшка**—пясчаны гарох, засяваецца з аўсом часамі з жытам. На корм—засяюць 10-12 пуд. пялюшкі, 6 пуд. аўсу на дзесяціну. Ураджай 50-70 пудоў зярна і 200-300 пуд. сена. На зялёны харч косіцца як печынае цьвісьці.

**Гарох**—ураджай за 200 пуд. часьцей—30-65 пуд. зярна (на дзесяціну засяецца 10-15 пуд.) 60-120 п. саломы.

**Віка** (засяецца на насеньня і на харч) каб на сена дык зрэя 3 месяцы, а на насеньня 4. Засяецца раняшняй вясной пасьля прапашных альбо азімага хлеба, сена з дзесяціны 100-200 пуд.

На зярнё можна засеваць: з ячменям аўсом яр, жытам 4-7 пуд. вікі 5-2 пуд. і інш. кармовыя травы найлепшая сена і добрае угнаеньне, разам з гэтым барацьба з непатрэбнай травой.

На вашым абавязку хлопцы ляжыць пашырэньне ведаў шматпольля сярод селянства і засеў палёў кармовымі травамі.

Толькі такі спосаб вядзеньня сель-гаспадаркі дапаможа выйсьці селяніну з тых дрэнных хатніх црыватных умоў, якія душаць яго соткі год.

Культурная гаспадарка дасьць больш карысьці і паменьшыць працоўны дзень селяніна.

Шырце культуру сярод селян!

«Малады Араты» будзе дапамогай вам у гэтым!

*Анатолі Вольны.*

# У агранома.

**агіт-жарт.**

## Хто прымае удзел.

1) Аграном.
2) Селянін.
3) Забаўны дзядок.
4) Комсамолец.

### Сцэна звычайная вясковая хата.

(На сцэне аграном).

*Аграном.* Не, ня лёгка быць аграномам у вёсцы. Тлумачыш, тлумачыш сялянам аб карысьці зямляапрацоўкі па новаму, а карысьці ад гэтага тлумачэньня, амаль што ніякае. Колькі, не кажы, што з пераходам к апрацоўцы зямлі па новаму—сабе-ж дапамогуць—мала ўвагі зварачваюць на словы.

Няўжо-ж гэтак і майму бацьку тлумачаць, тлумачаць, гэткія-ж як і я аграномы, а ён гэтак сама і ня дбае сабе... А магчыма, ой, магчыма з нашых палёў зьбіраць удвойчы, а то ўтрайне, а магчыма...

*Селянін* (стукае ў дзьверы). Можна ўвасьці?

*Аграном.* Ды, калі ласка. Уваходзь, уваходзь, браце!

*Селянін.* Прышоў я парадзіцца з вамі, таварыш —гражданін аграном, наконт майго насеньня.

*Аграном.* Якое-ж у цябе, брат, насеньня. Кажы мы яго зараз-жа вырашым.

*Селянін.* Вось, шмат мы ўжо чулі аб шматпольлі. Ужо да таго нам аб гэтым шмат казалі, што Васіль Даўнар сказаў—абавязкова пярэйдзе да шматпольля: „Перайду, кажа, каб ні чуць болей, як аграном зьвягае. Надаела, кажа. Досіць.“

*Аграном.* Ну няхай спачатку пяройдзе, таму што я яму надаеў,—потым сваю карысьць у ім убачыць.

*Селянін.* «Сумніцельна» нешта, каб ўбачыў...

*Аграном.* Ды, ці-ж ня ведаеш ты, што тыя, хто перайшлі ўжо да шматпольля значна ўзмацавалі свае гаспадаркі. Бо ты-ж ведаеш што ўвесь час адно і тое насеньне садзіць...

*Селянін.* Пачакай крыху. Спыніся. Далей я ўжо і сам ведаю. Дзякуй богу ня раз ужо чуў толькі вось пачатак запамятаваў... Адно і тое насеньне садзіць нельга--бо ня будзе зямля радзіць.

*Аграном..* А трэба засеяць некалькі культур, бо пры плодазьмену каласавыя хлябы, шыракаліставыя кармавые травы і карняплоды чарадуюцца сябар за сябрам...

*Селянін.* Сьціхні, кажу! А які-ж у цябе язык шпаркі. Верціш ім, усяроўна як нічыпараў конь хвастом. Ты пачакай. Далей я ўжо сам ведаю. Досіць ўжо цябе слухаў. Цяпер ты мяне паслухай... Дык, пры плодазьмену адна расьліна падрыхтовывае глебу для другой і гэткім чынам, не марнуецца глеба.

*Аграном.* Ну, дык ты сам ужо ўсё ведаеш. Усю карысьць пераходу да шматпольля.

*Селянін.* Ну, а ты думаў, што ў мужыка замест галавы люпін, ці што?.. Не, ужо досіць нам казалі аб гэтым. Усё запомнілі.

*Аграном.* Ну дык, у чым жа справа? Чаго-ж ня пераходзяць да шматпольля? Чаго ты ня пераходзіш?

*Селянін.* Ды я і хачу перайсьці да шматпольля ды неяк ўсе-ж яно „сумніцяльна...“

*Агроном.* Ды, чаго-ж сумніцяльна. Сам-жа бачыш ўсю яго карысць.

*Селянін*. Дык, чаго ты, да мане прыцапіўся. Не адзін я бачу карысьць шматпольля. Чаму-гэта я павінен першым пераходзіць да шматпольля. Няхай Ігнат пярэйдзе, няхай Пятро Сяргей Філіпаў, Іван, няхай яны, а чаму гэта я павінен першым?

*Агранoм*. Трэба ж каму небудзь пачынаць!

*Селянін*. Ну дык няхай яны і пачынаюць.

*Агранoм*. А яны бач мусіць у сваю чаргу чакаюць пакуль ты пачнеш.

*Селянін*. А можа? Бо ўсе ж ведаюць аб карысьці шматпольля, ды ўсе і чакаюць (**выходзіць**).

*Агранoм*. Дык, вось пачні.

*Селянін*. Калі, неяк „сумніцяльна."

*Агранoм*. Ды, чаго ж ты сумляваесься.

*Селянін*. Дык, хіба ж я адзін сумляваюся. Ніхто ж не пераходзіць. Выходзіць, нібы як усе ў сумленьні.

*Агранoм*. Ды, якоя ж можа быць сумляваньне, калі ўсе бачуць яго карасьць.

*Селянін*. Але, але, вось і я так сама кажу. З усіх бакоў карысна шматпольле, ды толькі... „сумніцельна" неяк.

*Агранoм*. Ну разтлумач-жа ты мне, як чалавек, ну чаго „сумніцельна"?

*Селянін*. Калі ніхто ж не пачынае, пераходзіць...

*Агранoм*. Дык, у цябе ж свая галава на плячох.

*Селянін*. Вось і я гэтак кажу. Свая, свая... Дзякуй, браце што розуму наставіў. І праўда карысная рэч шматпольле!.. Ну бывай... (**з-за дзьвярэй чухаючы патыліцу**)... А ўсё ж неяк сумніцельна...

*Агранoм*. Ну, слухай. Возьмем спачатку чатырохпольле 1) пар 2) азім 3) пропашныя і 4) яр.

*Селянін*. А ратуйце, браткі мае, зноў пачаў. Далі бог, як нічыпараў конь. Толькі змоўкні ты, ей богу перайду до шматпольля. Ну бывай, бывай...

**(выходзе).**

*Агранам.* Пайшоў. Ну вось ён, самі бачалі,—«сумніцяльны».

Сам бачыць, сам усё ведае але-ж сумляваецца. І гэткіх шмат.

З'агітаваў ужо іх. Добра ведаюць у чым карысьць. Але „сумляваюцца“—бо Варывончык ня пераходзіць. А Варывончык у сваю чаргу сам бачыць ўсю карысьць шматпольля і хоча к яму перайсьці, ды сумляваецца бо Грыгор, не пераходзіць і г. далей...

**(Уваходзіць стары дзед).**

*Стары дзедка.* Чы можна ўвайсьці, пане, цьфу таварыш агранам?

*Агранам.* Уваходзьце, уваходзьце! што з якой справай прышлі, ці што?

*Дзедка.* Прыйшоў я пан, цьфу таварыш, агранам, к вам парадзіцца наконт жаніцьбы.

*Агранам.* Дык ты ж браце ні ка мне папаў. Са мной можаш парадзіцца пaконт зямлі, а наконт жаніцьбы ты лепш к каму другому зьвярніся.

*Дзядок.* Ай, пан, цьфу таварыш агранам. Ды вы ж пачакайце. Дайце ж мне дагаварыць да канца. Бо інакш я ж адразу не магу ўсё сказаць. Так... дык вось я і кажу. Пайшоў я гэта ўчора па вуліцы. А на вуліцы каля прызбаў шмат дзяўчат сядзьдзіць. Ну, а сярод іх. Марфа, веда це кастусева дзяўчына. Гэткая прыгожая дзеўка. Ай-яй-яй!... сядзяць гэта дзяўчаты... Сядзіць і яна. Я гэта хачу падыйсьці да іх пагаварыць. З аднаго боку хачу, з другога... Ды ўсе бачком, бачком...

*Агранам.* Паслухайце, дзядзька, ну якая мне справа да таго з якога боку вы падыходзілі. Я агранам разумееце,—агранам.

Вы ўжо тагды лепш зьвярніцеся да вэтэрынара.

*Дзядок.* Ай, дык вы ж пачакайце... Дайце мне сказаць на вошта да вэтэрынара, калі мне трэба да агранома... Я ж хачу ўсё па паадку. Бо йначай ж.. нельга... Я ж адразу... ні магу ўсё сказаць, бо я...

*Агранам.* Слухайце, гаварыце Вы ўжо аб справе.

*Дзядок.* Так, так... (вымае нюхае тытун, нюхае і чхае) дык вось я й кажу...

Дзе-ж гэта я спыніўся?

*Аграном.* На тым самым месцы, як вы дзяўчат абхажывалі...

*Дзядок.* Але, але. Ну дык вось. Выйшаў я значыцца з хаты. Іду гэта я сярод вуліцы і дзіўлюся ва ўсе бакі. Гляжу, аж...

*Аграном...* На прызьбе сядзяць дзяўчаты?.. Так!

*Дзядок.* (**Узрадаваны**) так, так пане аграном. А скуль-жа вы гэта ведаеце?

*Аграном.* Потым вы пачалі дзяўчат абыходзіць. Яны сабе сядзяць, а вы ўсе бачком, бачком...

*Дзядок.* (**Нюхае тытун**). Эх, пане, таварыш, аграном, чаго я гэта буду бачком, ды бачком, як вы кажаце. Што гэта я Саўхоскі жарабец ці што. Не, я толькі глянуў у адзін бок, потым у другі, ды й думаю...

*Аграном.* Слухайце, сапраўды ў мяне няма часу... і потым я наконт жаніцьбы нічога не магу парадзіць.

*Дзядок.* Э, пачакайце, пачакайце, (**нюхае тытунь**) але я зараз, зараз. У двух словах... Так, дык дзе гэта я спыніўся? Ага, дык іду гэта я, а дзяўчата сядзяць... Я гэта бачком, бачком. Гляджу, а сярод іх Марфа. І ня ведаю чаму гэта так сталася, што Марфа гэта ўжо даўно так мне падабаецца.

*Аграном:* І я ня ведаю, як гэта сталася.

*Дзядок.* Ды... дык, я й кажу... Дзе-ж гэта я спыніўся?.. (**нюхае тытун**).

*Аграном.* На тым, як вам спадабалася Марфа...

*Дзядок.* Але-ж, але спадабалася. Даўно я ўжо меркаваўся пагаварыць з ёй аб шлюбе, ды ўсё нейк сорам пане, аграном.

*Аграном.* Ну дык з яе бацькамі пагутарыце, а пры чым тут я...

*Дзядок.* Ага, выбачайце, пане... цьфу, таварыш аграном, я яшчэ і з бацькамі пагавару. Дзякую за раду... бо дык дзе-ж гэта я спыніўся. Ага... спадабалася яна мне, а наконт вясельля пагутарыць з ёю дык духу не хапае. Ну, а ўчора я ўжо асьмеліўся... Падыйшсў гэта я да яе, паклікаў яе, ды й кажу: так вось ды й так... Адзін ратунак, кажу—вазьмі мяне замуж. Хлапец, я кажу, ўжо на гадох.. Акурат мне жаніцца! Шмат мы з ёю гутарылі, вось я зараз усе па парадку разскажу (**нюхае тытун**).

*Аграном.* Не, калі ласка,—ня трэба, ня трэба ўсяго па парадку...

*Дзядок.* Ага... ну добра, ня трэба, дык ня трэба, а толькі ў рэшце, яна мне і кажа; «што я ратунак сьвядомы, кажа алямент, такі кажа далі бог, «сьвядомы, кажа алямент. Дэлегаткай у жэнаддзеле лічуся і выйду замуж так сама толькі за сьвядомага селяніна. Пачухаў я тагды гэта сабе патыліцу, ды й пытаюся, а як гэта зрабіцца і мне сьвядомым. А во кажа, на табе вось гэтую газэтку... Во яна, пане (**нюхае тытун**) таварыш аграном гэтая газэта. У гэтай газэце кажа ўсё напісана і што павінна рабіць і якім павінен быць сьвядомы селянін. Я, гэта папрасіўся каб яна прачытала мне, што там напісана. Пачала яна чытаць. Дык божа-ж ты мой чаго там толькі няма і каб перайсьці да шматпольля і каб працаваць на ёй па новаму і каб газэту выпісвалі і каб... г. г. ды ўсяго і запомніць туга.

*Аграном.* Ага, ну вось цяпер, я разумею ў чым справа. Вы значыцца жадаеце стаць сьвядомым селянінам і перайсьці да шматпольля?

*Дзядок.* Але, але-ж сьвядомым, бо да таго часу Марфа кажа, каб і ня гутарыў, нават з ёю, аб вясельлі.

*Аграном.* Ага, ну добра. Маладзец, брацe—твая, Марфа. Каб болей такіх было, хутка-б ўсе перайшлі да шматпольля.

*Комсамолец.* (Стукае ў дзьверы) Можна ўвайсьці таварыш аграном?

*Аграном.* Уваходзьце, уваходзьце, калі ласка.

*Комсамолец.* Я да вас ад імя нашай вясковай ячэйкі. Прышоў прасіць вас, каб вы дапамаглі нам правясьці дзень ураджаю.

Вы, мусіць чулі пра гэты дзень. Мы хочам з яго зрабіць—сьвята і сьвята карыснае, у якое сяляне—перадавікі апавядалі-б другім аб сваіх дасягненьнях, у якое аграном навукова і зразумела даводзіў-бы селянам аб усёй карысьці зямля-абпрацоўкі па новаму.

*Дзядок.* Ой, мусіць хлоцоў дзяўчаты ўзялі ў працу.

*Аграном.* Не, дзедка, гэтыя хлопцы, бяз дзяўчат,—самі па сабе, гэта робяць.

*Комсамолец.* Потым трэба будзе нам таварыш аграном дагаварыцца яшчэ аб засеве комсамольскай дзесяціны, каб практычна давесьці бацьком і братом, што мы ня толькі на словах, дый на справе—першымі!

Што-ж датычыцца нашых палёў, дык у нашай комсамольскай ячэйцы вынясена гэткая пастанова:—дрэнны той комсамолец, які па новаму ня перабудуе сваёй гаспадаркі.

*Аграном.* (да дзядзькі). Во дзядок,—гэткія,—ня выдадуць! **(паказывае на комсамольца)** Во дзядок—наша сіла моцная сугліністая, маладая! Хочуць жыць па новаму—і будуць!

Вось гэткія дык бяз усякого „сумляваньня“ выйдуць—першымі будаваць новую зямлю. Ї збудуюць!.. (са сьмехам) і Марфу тваю атабьюць...

*Дзядок.* Дык, як к таму часу ўжо буду сьвядомым і сам запішуся у „комсамольцы“...

(Канец).

